# Голас Радзімы

№ 51 (1985)
18 снежня 1986 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Апошнім часам шырокую папулярнасць у рэспубліцы і ў краіне набыў Мінскі эстрадны аркестр. Больш за дзесяць год ім кіруе таленавіты музыкант, былы трамбаніст Міхаіл Фінберг, які атрымаў вышэйшую музычную адукацыю ў кансерваторыі, пасля скончыў яшчэ аспірантуру. Гэтая акалічнасць у спалучэнні з багатым вопытам практыка дазваляе яму цяпер паспяхова весці заняткі са студэнтамі Белдзяржкансерваторыі.

Але ўсё ж такі галоўны клопат М. Фінберга — аркестр, у якім сабралася нямала цікавых выканаўцаў. Шмат новых паклоннікаў калектыў атрымаў у час нядаўніх аўтарскіх канцэртаў народнага артыста БССР Ігара Лучанка ў канцэртнай зале «Расія» ў Маскве, удзельнічаць у якіх быў запрошаны самім кампазітарам. Дарэчы, сярод твораў Ігара Лучанка ёсць і спецыяльна напісаныя для аркестра М. Фінберга.

НА ЗДЫМКУ: Міхаіл ФІНБЕРГ.

Фота Ю. ІВАНОВА.

## ЧЫТАЧЫ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ» АДКАЗВАЮЦЬ НА АНКЕТУ

# ЗАХАВАННЕ МІРУ — НАШ АГУЛЬНЫ КЛОПАТ

Добры дзень, дарагая рэдакцыя! Я вельмі ўдзячна за вашу газету, якая памагае не адчуваць сябе адарванай ад Бацькаўшчыны. Часам бывае вельмі цяжка думаць, што Радзіма, родныя і сябры так далёка, што тут зусім іншыя людзі, іншая краіна. Да маёй роднай зямлі многія настроены варожа. Калі здарылася няшчасце ў Чарнобылі, колькі рознага бруду лілі на Савецкі Саюз. Ды і на мяне асабіста. Калі даведваліся, што я адтуль, накідваліся так, быццам я ва ўсім вінавата. Але цяпер пра гэта ўжо забыліся: у італьянцаў многа сваіх штодзённых клопатаў і трывог.

Шчыра кажучы, мяне іншы раз здзіўляе, што большасць людзей тут нічым не цікавіцца, акрамя сваіх праблем. Нават да такога важнага пытання, як захаванне міру, вельмі многія застаюцца абыякавымі (вядома, не ўсе). Апошнім часам у мясцовай прэсе сталі больш пісаць аб мірных ініцыятывах Савецкага Саюза. Паведамілі, што наша Радзіма прапанавала ЗША і іншым краінам поўнасцю знішчыць ядзерную зброю. І пачаліся спрэчкі. Усе ведаюць, якую пагрозу яна нясе, што трэба ад яе пазбавіцца. Гэтага адмаўляць нельга. Але нават і цяпер пачалі прыводзіць усякія выдумкі аб нашай краіне. Маўляў, заявы СССР няшчырыя, а робяцца для адводу вачэй. Вераць ці не вераць у гэта людзі, цяжка сказаць, таму што тут на чале ўсяго стаяць капіталісты. Ім належыць не толькі дзяржаўная ўлада, але і ўлада над асобнымі людзьмі. Яны трымаюць у руках сумленных рабочых людзей. Адкрыта гавораць, што калі будзеш хадзіць на мітынгі, будзеш выступаць супраць размяшчэння амерыканскіх ракет, падтрымліваць савецкія прапановы, то заўтра на работу можаш не прыходзіць. А работы ў краіне мала, і кожны вельмі трымаецца за сваё месца. Людзі маўчаць, а атрымліваецца, што прэзідэнт Рэйган мае рацыю, што б ні рабіў. Ну а тым, каму выгадна гонка ўзбраенняў, хто нагнятае напружанасць паміж краінамі, баяцца няма чаго. І яны вядуць актыўную прапаганду сваіх поглядаў праз газеты і тэлебачанне. Не саромеюцца і добра плацяць грамілам, якія збіваюць удзельнікаў антываенных мітынгаў і дэманстрацый. І ўсё ж такіх дэманстрацый становіцца ўсё больш. Значыць, усё больш людзей пачынаюць разбірацца, што да чаго. Ды і цяжка не зразумець, што калі ўспыхне ядзерная вайна, то яна будзе апошняй для чалавецтва. Аднак многія з тых, з кім мне даводзіцца сустракацца, гавораць і ўпэўнены, што Злучаныя Штаты гэтага не дапусцяць, а вось з Савецкім Саюзам трэба быць асцярожным. Словам, паўтараюць тое, што піша буржуазная прэса. Вось і да нядаўняй сустрэчы кіраўнікоў СССР і ЗША аднесліся падобным чынам. Асвятлялі саму сустрэчу вельмі мала. Ну а потым пачалі на ўсе лады распяваць, што дамоўленасці не дасягнулі па віне савецкага кіраўніка. Як бачыце, маніць тут не саромеюцца.

Усё гэта мяне вельмі непакоіць. Становіцца проста страшна, што людзі не разумеюць, да чаго можа прывесці амерыканская палітыка. І ўсё ж хочацца спадзявацца на лепшае. Не можа быць, каб цвярозы сэнс не атрымаў перамогу.

**Леанарда МАЛЕЕВА.**

Італія.

***

Дарагія сябры! Кожны тыдзень атрымліваю і з задавальненнем чытаю вашу газету. Многія матэрыялы дапамагаюць мне разабрацца ў тым, што ж на самай справе адбываецца ў сучасным свеце. Дзякуючы гэтаму, у мяне заўсёды ёсць патрэбныя аргументы ў спрэчках пра палітыку, якія даволі часта ўзнікаюць сярод маіх сяброў і знаёмых.

У Заходняй Аўстраліі, дзе я жыву, насельніцтва каля аднаго мільёна чалавек. Прэса правінцыі, верагодна, пад уплывам палітыкі капіталістаў вельмі мала піша аб тых кроках, якія робіць ваша краіна ў інтарэсах умацавання міру на планеце. Таму многія аб гэтым нічога не ведаюць. А ёсць і такія, каму выгадна падтрымліваць у насельніцтва страх перад «савецкай ваеннай пагрозай». Аднак справа ў тым, што цяпер усё больш і больш людзей разумеюць небяспеку ядзернай вайны і таму пачынаюць змагацца за мір на зямлі. А гэта значыць, што яны больш цікавяцца палітыкай і ўтойваць праўду ад іх становіцца ўсё цяжэй. Большасць маіх знаёмых добра бачаць, на дасягненне якіх мэт накіравана палітыка ЗША і іх партнёраў па НАТО. Яны ні ў якім разе не хочуць працягу гонкі ўзбраенняў, катэгарычна асуджаюць спробы мілітарызаваць космас, ажыццявіць праграму так званых «зорных войнаў». Аб гэтым яны пішуць пісьмы ў рэдакцыі газет. І рэдактары, магчыма і з неахвотай, але вымушаны некаторыя з гэтых пісьмаў публікаваць, каб не было скаргаў на парушэнне заходняй «свабоды слова».

Дзякуючы газеце «Голас Радзімы», я азнаёміўся з Заявамі Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова ад 15 студзеня і 18 жніўня гэтага года, прачытаў і яго нядаўнія выступленні па савецкім тэлебачанні пасля сустрэчы з прэзідэнтам ЗША. Як цудоўна ў іх тлумачацца мэты Савецкага Саюза ў знешняй палітыцы. Вельмі шкада, што адміністрацыя ЗША ўпарта адхіляе ўсе спробы ўмацаваць бяспеку планеты.

Я хачу выказаць маю глыбокую ўдзячнасць Міхаілу Сяргеевічу Гарбачову, Камуністычнай партыі Савецкага Саюза за тое, што яны робяць для захавання міру, а значыць і для дабрабыту кожнага чалавека на Зямлі. І ў далёкай Аўстраліі ў іх многа аднадумца[illegible]

Што [illegible]ыцца кіраўніцтва НАТО, то калі яно заяўляе, што дасягненне ваеннай перавагі над СССР будзе нібыта садзейнічаць умацаванню міру, значыць, у такім кіраўніцтве сядзяць вар'яты. [illegible]рашу прабачэння за нядобрыя сло[illegible] але калі такое кіраўніцтва не [illegible] сумлення, нахабна і свядома лжэ ўсім сумленным людзям на планеце, то як інакш пра іх пісаць? Яны ж самі не вераць у тое, што гавораць. Мільярдэры і мільянеры ў ваеннай прамысловасці проста прымушаюць іх ілгаць, каб мець магчымасць зарабляць новыя мільярды на гонцы ўзбраенняў, нібыта для дасягнення гэтай самай «ваеннай перавагі». А некаторыя палітыкі Захаду спадзяюцца, што Савецкі Саюз у выніку не вытрымае гонкі ўзбраенняў і прыйдзе да Захаду на паклон. Такога ніколі не будзе. Савецкі кіраўнік М. С. Гарбачоў ужо не раз гаварыў аб гэтым.

Сёння па ўсёй планеце шырыцца і мацнее рух барацьбітоў за мір. Не застанёмся ў баку ад яго і мы. У нашым горадзе Перце вельмі часта праходзяць мітынгі і дэманстрацыі пратэсту супраць гонкі ўзбраенняў, супраць вайны. Мы разумеем, што няма сёння больш важнай задачы, чым захаванне міру на Зямлі.

**Юрый РАСАДЗІНСКІ.**

Аўстралія.

***

Сёння свет стаіць перад страшнай пагрозай ядзернай вайны. Усе прагрэсіўныя людзі планеты ўсведамляюць, што нельга заставацца абыякавымі: трэба далучацца да барацьбы за мір, за раззбраенне і ўстанаўленне нармальных узаемаадносін паміж краінамі. Усюды на планеце адбываюцца маршы міру, на якіх прадстаўнікі розных слаёў насельніцтва папярэджваюць, што ў выніку гонкі ядзерных узбраенняў узрастае магчымасць гібелі ўсяго жывога на Зямлі. Занепакоена гэтай сітуацыяй і заходняя прагрэсіўна настроеная моладзь, якая, нярэдка пазбавіўшыся права на працу і адукацыю, у рэшце рэшт можа пазбавіцца права і на жыццё. Здавалася б, людзі, што стаяць на чале капіталістычных дзяржаў, маглі б раз і назаўсёды зразумець, што пераважная большасць насельніцтва планеты супраць вайны. Але пагроза яе ўзнікнення і зараз, як і раней, застаецца вельмі сур'ёзнай. Чаму?

Найбольшай небяспекай сёння для свету з'яўляецца палітыка заправілаў ваенна-прамысловага комплексу і адміністрацыі капіталістычных дзяржаў, якія ім падпарадкоўваюцца. Яны заўсёды ненавідзелі краіну, якая першай на планеце абрала сацыялістычны шлях развіцця, і імкнуліся знішчыць Савецкую ўладу з самага пачатку. А калі пасля другой сусветнай вайны гэтым шляхам пайшоў яшчэ шэраг краін, іх нянавісць набыла пагражальныя памеры. Капіталістычная сістэма, нягледзячы на магутны поступ навукова-тэхнічнага прагрэсу, так і не змагла пазбавіцца ад эканамічных крызісаў, інфляцыі і беспрацоўя. Імкнучыся адцягнуць увагу грамадскасці ад уласных бед, імперыялізм прыкладае вялікія намаганні, каб прынізіць дасягненні сацыялізму і паказаць неіснуючыя перавагі заходняй дэмакратыі. На гэта затрачваюцца вялікія грошы. Створана шмат так званых доследных інстытутаў і ўстаноў, якія спецыялізуюцца на фальсіфікацыі тэорыі і практыкі сацыялістычнага будаўніцтва, ствараюць міфы і фальшыўкі для дыскрэдытацыі поспехаў дзяржаў сацыялістычнай садружнасці. Усім вядома, што школьная адукацыя ў капіталістычных краінах, асабліва ў Злучаных Штатах, знаходзіцца не на належным узроўні. Насельніцтва не інфармуюць пра сапраўдны стан спраў у свеце, асабліва ў сацыялістычных краінах. Зараз сярод моладзі Захаду шмат тых, хто расчараваўся ў ідэалах капіталістычнага ладу і жадае больш ведаць пра жыццё ў краінах іншых сацыяльных сістэм. Таму прагрэсіўныя людзі павінны растлумачваць тым, каго падманулі, сапраўднае становішча спраў у свеце, гаварыць пра[illegible]ду пра тое, што адбываецца ў СССІ [illegible] іншых краінах сацыялізму. Я жыву ў раёне, дзе больш няма славян, але набыў тут шмат шчырых сяброў, расказваючы пра сваю краіну. І хаця мы, вашы замежныя суайчыннікі, не можам шмат зрабіць для сваёй Айчыны, але нават тым, што распаўсюд[illegible]ем праўдзівую інфармацыю пра яе, [illegible] таксама ўносім уклад у справу барацьбы за мір на планеце, за шчасце ўсяго чалавецтва.

**Эразм ЛЯВІЦКІ.**

Аўстралія.

***

Суайчыннікі, якія сочаць за жыццём на Радзіме, ведаюць, што Савецкі Саюз прыкладвае вялікія намаганні для захавання міру на нашай цудоўнай планеце. Добра вядома аб гэтым і мне з газет, якія прыходзяць з Беларусі. А ў апошні час пра гэта сталі многа пісаць і ў нашай прэсе, і гаварыць па тэлебачанні. Пытанне захавання міру сёння хвалюе ўсіх.

Прапановы Савецкага ўрада сустракаюць вельмі пазітыўны водгук як у насельніцтва, так і ва ўрадавых колах нашай краіны. Але, на жаль, не ва ўсіх. Тут яшчэ вельмі вялікі ўплыў маюць сілы, якія мараць пра рэванш, для якіх само слова «мір» проста непрымальнае. Што тычыцца праекта так званых «зорных войнаў», які імкнецца рэалізаваць адміністрацыя ЗША, то народ ФРГ у пераважнай большасці выступае супраць яго. Аднак некаторыя фірмы імкнуцца зарабіць на гэтым грошы і ахвотна бяруцца за выкананне заказаў па праграме стратэгічнай абароннай ініцыятывы. Вельмі шкада, але такое магчыма ў капіталістычным свеце, калі вялікі бізнес не лічыцца з інтарэсамі народа.

Мы з неаслабнай увагай сочым за ўсімі выступленнямі савецкага кіраўніка М. С. Гарбачова, таму што ў іх адлюстравана пазіцыя СССР у цяперашнім складаным міжнародным становішчы. У Заяве ад 15 студзеня гэтага года была выказана ясная і цалкам рэальная праграма збаўлення чалавецтва ад ядзернай пагрозы. Я лічу: больш таго, што робіць Савецкі Саюз для захавання міру на планеце, зрабіць немагчыма. І вельмі шкада, што адміністрацыя Злучаных Штатаў застаецца глухой да шматлікіх мірных ініцыятыў СССР і працягвае палітыку гонкі ўзбраенняў. Народ ФРГ, за выключэннем тых людзей, аб якіх я ўжо гаварыў, зусім не згодны з заявамі натаўскіх кіраўнікоў аб тым, што дасягненне ваеннай перавагі над Савецкім Саюзам будзе нібыта садзейнічаць умацаванню міру. Кожны разумны чалавек усведамляе: такой перавагі проста немагчыма дасягнуць, Савецкі Саюз гэтага ні ў якім выпадку не дапусціць. А далейшае нарошчванне ўзбраенняў толькі павялічвае пагрозу ўзнікнення ваеннага канфлікту.

Мы ўсе вельмі спадзяваліся, што сустрэча кіраўнікоў СССР і ЗША ў Рэйк'явіку прынясе ўсяму свету пазітыўныя зрухі. Але, на вялікі жаль, гэтага не здарылася. І зноў-такі з-за пазіцыі адміністрацыі ЗША, якая, як упартае дзіця, працягвае прытрымлівацца небяспечнага курсу мілітарызацыі. Людзі добрай волі выступаюць за мір. Яны разумеюць, што Савецкі Саюз нікому не пагражае, а наадварот, прыкладвае вялікія намаганні для ўмацавання міру на планеце. Усім нам трэба яшчэ больш узмацніць свае выступленні ў падтрымку міру, каб іх нарэшце пачула адміністрацыя ЗША.

**Браніслаў АЎГУСЦІНОВІЧ.**

ФРГ.

***

Пытаннямі захавання міру сёння проста нельга не цікавіцца, бо гэта асноўная праблема для ўсяго чалавецтва. Аб гэтым я многа чытаю, слухаю перадачы па радыё. Выдатна былі чуваць перадачы з XXVII з'езда КПСС, праслухалі ўсе выступленні Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова на Далёкім Усходзе. Зразумела, што клопат аб захаванні міру стаў асноўным для КПСС, і я спадзяюся на яе мудрую палітыку. Мы перажылі цяжкія часы — вайну, і гэта нельга забыць. Нельга дапусціць яе паўтарэння. Вось нядаўна прайшла сустрэча кіраўнікоў дзвюх вялікіх дзяржаў — СССР і ЗША, усе чакалі яе вынікаў з вялікім аптымізмам. Але нашых надзей яна не апраўдала. Вельмі шкада. І ўсё ж я поўнасцю давяраю нашай Радзіме, ведаю, што яна не дапусціць, каб здарыліся новыя канфлікты, і жадаю поспехаў у яе палітыцы. Трэба давесці да розуму і адміністрацыю ЗША, каб і яны спынілі ядзерныя выбухі. А што датычыцца тутэйшай прэсы, то пішуць аб гэтым мала, ды і людзі вакол мяне мала гэтым цікавяцца: у іх іншыя клопаты — як знайсці работу, як пражыць.

У нашым таварыстве дружбы «Францыя — СССР» мы робім вельмі многа для таго, каб людзі больш даведваліся пра нашу Радзіму, каб мацнела дружба паміж французскім і савецкім народамі. Мы сочым за прэсай, падбіраем цікавыя матэрыялы і даём чытаць сябрам і тым, хто жадае ведаць пра жыццё Савецкага Саюза, яго палітыку, розныя ініцыятывы, накіраваныя на ўмацаванне міру. І справы нашага таварыства ідуць нядрэнна. Але мне асабіста іншы раз бывае вельмі цяжка маральна. Вось, напрыклад, калі паднялі шуміху вакол Чарнобыля. У гэты час мой муж быў у Ленінградзе і Маскве ў турыстычнай паездцы. Дык мне ўсяго тут нагаварылі. Нават сказалі, каб не цалавала мужа, калі вернецца дамоў. Мне б і ў галаву не прыйшло такое. А вось тут побач знаходзіцца завод і штодзённа атручвае атмасферу ядавітымі хімікатамі. Цяжка дыхаць, у садах і гародах усё засыхае ад гэтага туману. І колькі жыхары пісалі, скардзіліся, ніхто не звяртае ўвагі, не ўзнімае ніякага шуму. Таму што гэта ў капіталістычнай краіне, капіталісты робяць, што хочуць, і ўсё добра.

У заключэнне хачу пажадаць усім, каб гэты год, аб'яўлены Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый Годам міру, у сапраўднасці стаў пачаткам эры вечнага міру на нашай планеце.

**Марыя ТАМАЙО.**

Францыя.



Гродно. На Привокзальной площади. Фото А. ПЕРЕХОДА.

## ЧЕРНОБЫЛЬСКАЯ АЭС ВСТУПАЕТ В ПЕРИОД НОРМАЛЬНОЙ ЭКСПЛУАТАЦИИ

# ОПАСНОСТЬ ПОЗАДИ

*Интервью научного обозревателя АПН Ю. КАНИНА с академиком В. ЛЕГАСОВЫМ, заместителем директора Института атомной энергии (г. Москва), членом правительственной комиссии по ликвидации последствий аварии на Чернобыльской АЭС.*

**— Сообщение о завершении строительства железобетонного саркофага, изолирующего аварийный четвертый блок Чернобыльской АЭС от внешней среды, вызвало у общественности мира естественный и повышенный интерес. Замурован, навечно захоронен вышедший из-под контроля источник радиоактивной опасности, наделавший немало бед и породивший еще больше панических слухов и настроений.**

— Безусловно, это событие — большая победа над разгулявшейся атомной стихией. Победа тысяч людей, которые, сменяя друг друга, в сложной радиационной обстановке пробивались под землей к разрушенному реактору, готовили подходы к самому важному объекту на станции, дезактивируя ее территорию, круглосуточно наращивали ступени последней, каскадной стены саркофага, а затем соорудили на 60-метровой высоте его перекрытие.

Всех участников этого напряженного труда не перечислить. В первую очередь нельзя не отметить и не оценить вклад в общую победу тех ученых, исследователей, специалистов, которые своими принципиально новыми научно-техническими решениями создавали основу этой победы, ускоряли процесс ликвидации последствий аварии. Не будем забывать, что опыт и уроки Чернобыля бесценны для всего мира, и, думаю, не только для атомной науки и промышленности.

**— Можно ли быть уверенным, что теперь от навечно замурованного реактора никаких неожиданностей не будет!**

— Твердо и ответственно могу сказать, что никаких неожиданностей, связанных с выбросами радионуклидов, воздействием на окружающую среду, не будет. Саркофаг — довольно сложное инженерное сооружение. Он буквально нашпигован приборами контроля и диагностики, оборудован надежной системой теплообмена, вентиляции с мощными очистительными установками. Данные радиационных замеров с разных внешних точек саркофага практически не отличаются от радиационного фона на дезактивированной площадке станции. На территории АЭС есть еще участки, где отмечается повышенный уровень радиоактивности. Но к ним теперь не относится то место, где радиоактивность была самая высокая, — прямо у стены саркофага, закрывающей жерло разрушенного блока.

Однако мы не исключаем неожиданностей научного характера, событий внутри саркофага, представляющих интерес для исследователей. Как, скажем, будут мигрировать радионуклиды в захороненной массе? Возможны неожиданные воздействия радиационного излучения на материалы оставшихся конструкций и т. д. Для этого устанавливаются, в дополнение к диагностическим системам технологического назначения, датчики и приборы, предназначенные для глубокого изучения всех физико-химических процессов, которые будут происходить в укрытии. Ведь теперь этот объект — уникальный для исследователей.

**— Какие основные технологические измерения проводятся в саркофаге и с какой периодичностью!**

— Ну, прежде всего, как я уже говорил, радиационные измерения. Контролируется радиационная обстановка внутри и по периметру сооружения, фиксируется концентрация радионуклидов до и после фильтрующих систем. Замеряется температура в различных точках захоронения: под реактором и внутри него, на наружных и внутренних элементах конструкций. С помощью большого количества сейсмодатчиков будут определяться устойчивость всей конструкции и фиксироваться любые перемещения ее элементов или содержимого внутри саркофага, если таковые будут происходить. Периодически внутри захоронения также будут вестись наблюдения для контроля за процессом радиоактивного распада.

**— Создана ли для этих измерений специальная служба на атомной станции! С кем она связана в Москве и как будет поступать информация в центр — в министерства, ведомства и учреждения, которые должны контролировать ход событий на станции вообще и в саркофаге в том числе!**

— Да, на атомной станции создана специальная служба, которая ведет технологическую эксплуатацию саркофага и наблюдение за всеми параметрами. Кроме того, ряд научно-исследовательских институтов страны организовали там свои экспедиции, чтобы, как я уже говорил, изучать различные физико-химические процессы по своим программам.

Все сведения, данные измерений поступают в единый информационный центр, а оттуда в различные центральные организации — правительственную комиссию, новое Министерство атомной энергетики, Госатомэнергонадзор, Госкомгидромет, академические институты и другие заинтересованные учреждения.

**— Как вы оцениваете сегодняшнее состояние работ по ликвидации последствий аварии в целом!**

— Теперь мы, можно сказать, приступили к завершающему этапу. Хотя дел еще много, но главная опасность — позади. О саркофаге уже говорилось выше. Кроме этого, в основном введены в строй все сооружения и системы, предназначенные для защиты от радиоактивного заражения грунтовых вод, рек и водоемов. Это и так называемая «стенка в грунте» (до непроницаемого глинистого слоя) близ аварийного блока, и более сотни дренажных скважин, фильтрующих дамб и плотин, наполненных материалами, способными улавливать и аккумулировать радионуклиды. Окончательно об эффективности всех этих сооружений будем судить после весенних паводков, но пока они подтверждают свою надежность. Воды протекающей около атомной станции реки Припять, Киевского водохранилища, куда она впадает, и далее реки Днепр — чистые.

Большая часть территории станции дезактивирована, и теперь после сооружения саркофага темпы этих работ и масштабы дезактивации во всей 30-километровой зоне возрастут.

А сама станция тем временем вступает в период нормальной эксплуатации. Первый энергоблок работает уже почти на полной мощности (более 900 мегаватт), второй — на уровне, превышающем 50 процентов проектной мощности, в соответствии с программой выхода на максимальный эксплуатационный режим.

**— Были ли внесены какие-то изменения в конструкцию введенных в строй реакторов, чтобы повысить их надежность!**

— Принципиальных перемен в конструкции реактора РБМК нет. Некоторые изменения сделаны, но, как говорят специалисты, в рамках существующей конструкции. Так, увеличено число поглощающих стержней, постоянно находящихся в активной зоне реактора, и приближено к ней стартовое расположение регулирующих стержней, благодаря чему в случае необходимости системы защиты будут включаться быстрее, чем это было раньше. Установлены некоторые дополнительные диагностические системы, контролирующие работу оборудования.

---

## ЯДЕРНЫЕ ПРОБЛЕМЫ И СТАРЫЕ СТЕРЕОТИПЫ

# В ПОГОНЕ ЗА ПРИЗРАКОМ «ЧУДО-ОРУЖИЯ»

Кульминацией встречи в Рейкьявике, как известно, явилось совпадение позиций руководителей СССР и США относительно ликвидации всех ядерных вооружений. Однако на пути к реализации этих мер, ведущих к ядерному разоружению, встало единственное препятствие — американская СОИ, осуществление которой означало бы оставить неприкрытым канал получения для США односторонних военных преимуществ. Таким образом, в космическом оружии ныне за океаном видят решающее средство в обретении военного превосходства над Советским Союзом, над странами социализма, средство к господству над миром.

Заполучить в свои руки «чудо-оружие», которое обеспечит решающее превосходство над противником,— давняя мечта всех милитаристов. Еще в начале 20-х годов английский военный теоретик Дж. Фуллер писал: «Идеальная армия, к которой надо стремиться, это — не вооруженный народ, а один человек, притом не какой-нибудь сверхученый, но просто человек, способный нажать кнопку или выдернуть пробку и тем самым привести в действие машины, изобретенные лучшими умами науки в мирное время».

Однако последующий ход истории убедительно доказал, что упование на «чудо-оружие» — иллюзия.

В годы второй мировой войны американо - английское военное командование пыталось возвести в ранг «чудо-оружия» стратегическую авиацию, которая последовательно разрушала с воздуха немецкие и японские города. Затем абсолютным оружием была объявлена атомная бомба, которую США преднамеренно сбросили на густонаселенные и не тронутые предыдущими воздушными налетами города — Хиросиму и Нагасаки, чтобы уничтожением сотен тысяч людей произвести устрашающий эффект на народы мира, в первую очередь на СССР. Однако массированные бомбардировки городов Германии не привели к упадку ее военно-промышленного потенциала, а атомные бомбы не заставили Японию капитулировать.

После войны попытки империализма создать и удержать военно-техническое превосходство над социализмом за счет новых видов вооружения также окончились провалом. Ставки вначале на стратегические бомбардировщики, а затем на межконтинентальные баллистические ракеты, на ракеты с разделяющимися головными частями, на высокоточное оружие и т. д. одна за другой оказывались несостоятельными. Советский Союз, не будучи инициатором и лидером гонки вооружений, всегда своевременно находил адекватный и эффективный ответ.

В начале 70-х годов СССР добился военно-стратегического паритета с США. Американское военно-техническое превосходство кануло в Лету. И навсегда! Обрести военное превосходство над СССР в наше время тем более невозможно. Но тоска по безвозвратно ушедшим временам империалистического господства не дает покоя нынешним претендентам на владение миром. Вот что пишет президент американского Института исследования проблем космоса и безопасности Р. Боумэн: «Мы устали от равенства. Единственный способ, которым мы сможем вернуть себе рычаг политического давления, состоит в том, чтобы вернуть себе абсолютное превосходство». Вернуть, но как? И здесь на авансцену вновь выступает тезис о суперrepresentations оружии.

Министр обороны США Уайнбергер заявил в конце 1985 года: «Если мы получим систему, которая будет эффективной и сделает бесполезным ядерное вооружения Советского Союза, то сможем вернуться к той ситуации, когда мы были единственной страной, обладающей ядерным оружием». Пути обретения такого оружия видят ныне в осуществлении так называемой «стратегической оборонной инициативы» (СОИ).

Однако СОИ, как признают ученые, не обеспечит создание стопроцентного «непроницаемого щита» для США.

Иллюзорность опасных попыток реакционных кругов империализма сломать военно-стратегическое равновесие, возникшее в 70-х годах, просматривается учеными во множестве контрмер, направленных против СОИ. Они могут включить в себя как развитие специальных средств нейтрализации и поражения различных элементов эшелонированной противоракетной системы, так и наращивание, модификацию и диверсификацию стратегических ядерных вооружений.

Да, реалии ядерного века ставят по-новому вопросы войны и мира. Выступая с речью на закрытии XXVII съезда КПСС, М. С. Горбачев подчеркивал: «Одинаковая безопасность — властное веление времени. И обеспечение ее все больше становится задачей политической, которую можно решить лишь политическими средствами». И действительно, весь исторический опыт последних десятилетий показывает, что политика гонки вооружений, поисков новых видов смертоносного всеистребляющего оружия бесперспективна. Современная эпоха повелительно требует нового мышления. Руководствуясь старыми стереотипами, проблем ядерного века не решить. Безопасность государств в наше время нельзя обеспечить только военными средствами. Сегодня этот вопрос в огромной степени политический. Именно так и подходит к нему Советский Союз, отстаивая идею ликвидации ядерного оружия к концу XX века.

**Александр ОРЛОВ,** кандидат исторических наук. (АПН).

## КОЛАСАЎСКІ ТЭАТР АДЗНАЧЫЎ СВОЙ ЮБІЛЕЙ

# УЗБАГАЧАЦЬ ДУХОЎНЫ СКАРБ

**Сёлета ўвосень Беларускаму дзяржаўнаму акадэмічнаму тэатру імя Якуба Коласа ў Віцебску (колішняму БДТ-2) споўнілася шэсцьдзесят год.**

**Яго трупа была сфарміравана ў 1926-м з выпускнікоў Беларускай драматычнай студыі ў Маскве. Сярод першых работ тэатра — класіка савецкай драматургіі: «Разгром» Б. Лаўранёва, «Першая конная» У. Вішнеўскага, «Гібель эскадры» А. Карнейчука. Адразу ж пачалася праца і над стварэннем нацыянальных спектакляў. Былі пастаўлены «Паўлінка» і «Прымакі» Янкі Купалы, п'есы маладых тады А. Александровіча, І. Гурскага, П. Глебкі. У 1937 годзе адбылася першая сустрэча тэатра з драматургіяй Якуба Коласа: з'явіліся спектаклі «Вайна вайне» і «У пушчах Палесся». А ў 1944-м БДТ-2 было прысвоена імя Якуба Коласа. Гэта не толькі даніна павагі да песняра, але і прызнанне заслуг тэатральнага калектыву, у які ўваходзілі такія выдатныя беларускія артысты, як А. Ільінскі, П. Малчанаў, А. Радзялоўская, М. Міцкевіч, К. Саннікаў, Ц. Сяргейчык, М. Бялінская, Л. Мазалеўская, С. Станюта... Дарэчы, народны артыст СССР Павел Малчанаў стаў першым у рэспубліцы выканаўцам ролі У. І. Леніна. Гэта адбылося ў 1938 годзе ў спектаклі па п'есе М. Пагодзіна «Чалавек з ружжом».**

**У пасляваенныя гады коласаўцы таксама працавалі не менш плённа, творча ставячыся да традыцый, шукаючы новыя шляхі ў мастацтве. Тэатр ніколі не страчваў свайго ўласнага твару, імкнуўся да непаўторнасці і арыгінальнасці ў кожнай новай рабоце.**

**Пра тое, якімі клопатамі і радасцямі жыве сёння тэатр, пра яго здабыткі і страты, узаемаадносіны з гледачом, наогул з мастацтвам — наша сённяшняя гутарка з галоўным рэжысёрам тэатра імя Якуба Коласа Валерыем МАЗЫНСКІМ.**

*— Валерый Яўгенавіч, ці існуюць асабіста для вас такія паняцці, як «тэатр сталічны» і «тэатр правінцыяльны»? Калі так, то які сэнс вы ўкладваеце ў іх?*

— У першую чаргу, для мяне гэта катэгорыі якасныя. Калі ёсць сапраўднае мастацтва — тэатр можа лічыць свой узровень сталічным, калі ж усё, што прапануецца гледачу, толькі падробка пад творчасць, — правінцыя.

Наогул, сказаць, што ніякай розніцы паміж Віцебскам і Мінскам мы не бачым,— будзе няпраўдай. Безумоўна, дарога ў мінскі тэатр для драматурга карацей, чым у абласны. Часцей ён жыве і працуе ў сталіцы рэспублікі, там жа знаходзіцца і наша непасрэднае кіраўніцтва — Міністэрства культуры БССР. Але асаблівых складанасцей мы не маем. У тэатра ёсць аўтарытэт, ёсць цікавыя акцёры, што вельмі важна для ўсіх аўтараў п'ес. Таму коласаўцы маюць магчымасць, расказваючы пра свой калектыў, пачаць: «У нас упершыню...» Так, у нас упершыню ўбачылі свет «Выпрабаванне агнём» і «Людзі і д'яблы» Кандрата Крапівы, спектакль «Навальніца набліжаецца» па трылогіі Якуба Коласа «На ростанях», дзве п'есы Уладзіміра Караткевіча — «Кастусь Каліноўскі» і «Званы Віцебска». Быў задаволены нашымі пастаноўкамі сваіх камедый Андрэй Макаёнак. Упершыню на беларускай мове прагучалі менавіта з коласаўскай сцэны «Гамлет» і «Кароль Лір» Шэкспіра, «Мяшчане», «Ягор Булычоў і іншыя» Горкага, «Улада цемры» Талстога і «Беспасажніца» Астроўскага...

Сярод спектакляў апошніх год можна прыгадаць п'есу «Вечар» Дударава, якая ў рэспубліцы ўпершыню ўбачыла святло рампы ў Віцебску. Над яго ж «Парогам» мы працавалі адначасова з купалаўцамі. Шырока вядомая п'еса Алеся Петрашкевіча «Трывога» таксама спачатку была пастаўлена ў нас. Ніколі коласаўская сцэна не лічылася другараднай. Спадзяюся, такога і не будзе.

Калі казаць пра артыстаў, то ў асноўным трупа ў тэатры стабільная, ал[illegible] безумоўна, нехта яе і пакі[illegible] у тым ліку і дзеля пераходу ў іншыя тэатры. Але ўсё гэта, на маю думку, натуральна.

Ёсць яшчэ адзін бок пастаўленага пытання. На жаль, мы бачым і ў [illegible]нас правінцыяльнасць с[illegible]д пэўнай часткі гледачоў. Гэта вельмі непрыемная акалічнасць, бо тэатра, як вядома, без гледача проста не існуе. У невялікім горадзе, натуральна, меншыя магчымасці для эстэтычнага выхавання, што, у сваю чаргу, адбіваецца на ўзроўні падрыхтаванасці людзей, якія ідуць на сустрэчу з мастацтвам. Такім чынам, ускладняецца работа самога тэатра.



*— І як жа ўсё-такі ў вашым тэатры складваюцца ўзаемаадносіны з гледачом, у першую чаргу з віцебскім?*

— Тэатр адзначыў сваё шасцідзесяцігоддзе. Лічу, што гэта гаворыць пра многае. Калі б людзі на нашы спектаклі не ішлі, то не стала б грамадства дзесяцігоддзямі ўтрымліваць цэлую трупу, траціць дзяржаўныя грошы.

Але сказаць, што ўсё вельмі добра, праблем няма, таксама не магу. Нас не задавальняе, што глядач нярэдка робіць выбар не на карысць, скажам, псіхалагічнай драмы, а выбірае рэчы больш простыя для ўспрыняцця, якія не вымагаюць душэўнай, эмацыянальнай працы.

Быць сапраўдным тэатральным гледачом цяжка: патрэбна і эмацыянальная напружанасць, і пэўная душэўная аддача. Менавіта на гэта пакуль здольныя не ўсе. Але не хацелася б усё «валіць» толькі на гледача. Калі ёсць пралікі ў яго выхаванні, то трэба шукаць і сваю віну, віну творцаў, дзеячаў мастацтва, якія закліка624 ўсёй сваёй дзейнасцю трымаць духоўнае жыццё людзей у высокім напружанні і развіцці.



Я працую ў коласаўскім тэатры дванаццаць гадоў і па ўласнаму вопыту магу сцвярджаць, што глядач расце толькі разам з тэатрам. Нашы людзі сёння больш інфармацыйна насычаныя, павысіўся іх інтэлектуальны ўзровень, а значыць, і патрабаванні да жыцця, у тым ліку і да культурнага.

Апошнія гады аншлаг у тэатры — рэч звычайная. А папулярнасць лялечнай трупы расце з кожным спектаклем.

*— Добра вядома, што сярод сталых традыцый коласаўцаў адна з самых трывалых — шчырае сяброўства з сельскімі жыхарамі. Данесці мастацтва ў маленькія гарадкі, вёскі — вось высакародны абавязак, узяты на сябе тэатрам. Як гэта атрымліваецца ў вашым калектыве сёння?*

— З гадамі сувязь з вёскай не толькі не слабее, але і ўзмацняецца. Нярэдка каля тэатральнага пад'езда можна бачыць аўтобусы, якія спецыяльна прывезлі сельскіх аматараў сцэнічнага мастацтва да нас на спектаклі. Вяскоўцам, як, дарэчы, і ўсім нам, вельмі падабаецца новае памяшканне тэатра, дзе яшчэ больш узмацняецца тая асаблівая атмасфера прыўзнятасці, святочнасці, што абавязкова ўзнікае, калі людзі прыходзяць на спектаклі.

Але, мабыць, яшчэ часцей мы выпраўляемся ў сельскія Дамы культуры і клубы. Лічыце самі: кожны год ставім на раёне 250—270 спектакляў, значыць, артысты-коласаўцы праводзяць у такіх выездах адзін-два месяцы. Увесь гэты час яны жывуць у раённай гасцініцы і аб'язджаюць са спектаклем літаральна ўсе мясцовыя вёскі.

*— Зыходзячы з якіх прынцыпаў, тэатр фарміруе свой рэпертуар?*

— Высокая якасць драматургічнага твора, які мы хочам прыняць да пастаноўкі, гэта галоўнае. Але ёсць і нюансы, ад якіх таксама ў немалой ступені залежыць рэпертуар. Напрыклад, абавязкова ўлічваем, што патрабуе глядач, не забываемся і пра асаблівасці, схільнасці нашых акцёраў, рэжысёраў.

І што вельмі важна, заўсёды памятаем, што мы — тэатр нацыянальны.

*— Так, коласаўскі тэатр — нацыянальны. Валерый Яўгенавіч, вы, як галоўны рэжысёр, якія асаблівасці ў сувязі з гэтым бачыце ў рабоце?*

— Быць нацыянальным тэатрам — вельмі адказная місія. Мы павінны не толькі зберагчы, але і на аснове агульначалавечых маральных і мастацкіх каштоўнасцей развіваць далей менавіта нашы, традыцыйныя формы і асаблівасці ў мастацтве, узбагачаць той духоўны спадчынны скарб, які атрымалі ад бацькоў, і перадаць яго сваім дзецям. Адсюль вынікае і больш вузкая, але не менш значная задача тэатра — захаванне нацыянальнага моўнага асяроддзя. Вялікая роля належыць тут творам беларускіх аўтараў. Сапраўдным адкрыццём сталі п'есы Аляксея Дударава, як[illegible]дарэчы, зацікавілі дзеся[illegible]іншых тэатраў краіны. У нас пастаўлены тры апошнія, на сёння найбольш значныя: «Вечар», «Парог», «Радавыя». На працягу сарака год сваёй «візітнай карткай» тэатр лічыў «Несцерку» Віталя [illegible]льскага. Зараз мы чака[illegible]новую п'есу аб прыгодах разумнага, дасціпнага і спагадлівага Несцеркі, сапраўднага народнага героя. Яе рыхтуе для нас Мікола Захаранка, настаўнік сельскай школы.

*— Валерый Яўгенавіч, я чула, што ў тэатры праводзяцца спецыяльныя заняткі з артыстамі па роднай мове...*

— Як ужо адзначалася, коласаўскі тэатр — нацыянальны, і родная мова для нас беларуская. Але мы павінны быць своеасаблівым лінгвістычным эталонам. Ад дасканаласці і прыгажосці мовы, якой карыстаюцца нашы артысты, у значнай ступені залежыць поспех усяго спектакля. І вельмі прыемна, калі, паглядзеўшы выступленне коласаўцаў, нават гледачы іншых рэспублік прыходзяць у захапленне ад беларускай мовы. Так, напрыклад, адбылося ў час гастроляў у Маскве. Памятаю, тады на нашых спектаклях у першых актах у зале яшчэ карысталіся дапамогай перакладчыка, а ў наступных актах цяжка ўжо было знайсці чалавека з навушнікамі.

У тэатры загадчык літаратурнай часткі, вопытны філолаг, займаецца мовай з артыстамі. Так мы павышаем свой прафесіяналізм.

*— Якім бачыцца вам тэатр у будучыні?*

— У мяне на гэты конт ёсць свае ўласныя меркаванні.

Справа ў тым, што Віцебск не вельмі вялікі абласны горад, таму немэтазгодна адкрываць тут некалькі тэатраў. Але патрэба ў мастацтве, у тым ліку і тэатральным, расце. У такім выпадку мне бачыцца наступнае выйсце. Коратка яго можна было б назваць «тэатр-камбінат», сутнасць якога ў тым, каб пад адным дахам, пад кіраўніцтвам адзінай кваліфікаванай адміністрацыі мець фактычна некалькі спецыялізаваных труп: драматычную, для юнага гледача, можа, і музычную. Бо ад адзінага ў горадзе тэатра патрабуецца задаволіць густы самых розных глядацкіх аўдыторый. А гэта, самі разумееце, справа няпростая.

*— Зараз у краіне ідзе перабудова. Яна закранае і сферу культуры, мастацтва. Як гэта адбіваецца на рабоце вашага калектыву?*

— Тэатр, як усякае мастацтва наогул, як літаратура, павінен быць актуальным. Не кан'юнктурным, а менавіта глыбока сучасным. Толькі, калі ўбачыш самае галоўнае, адметнае ў сённяшнім дні і перадасі гэта ў сваёй творчасці, ёсць шанц застацца цікавым і заўтра.

Тэатру нельга быць другім эшалонам, ісці па слядах падзей. Ён павінен крочыць наперадзе, намацваць тыя болевыя кропкі жыцця, якія ў хуткім часе прыцягнуць увагу ўсяго грамадства. У гэтым наш абавязак, гэта наша права.

Зараз тэатр працуе над антываеннай п'есай беларускага аўтара Уладзіміра Халіпа «Цень узгорка». У плане інсцэніроўка «Прыгоды бравага салдата Швейка» паводле Гашака і мальераўскі «Тарцюф».

У тэатра вялікая гісторыя, але веру, што будучыня яшчэ большая.

*— Валерый Яўгенавіч, шчыра дзякуем за гутарку і далучаемся да тых шматлікіх віншаванняў, што атрымаў калектыў у сувязі са сваім шасцідзесяцігоддзем.*

Гутарку вяла
Галіна УЛІЦЁНАК.



**НА ЗДЫМКАХ: сцэна са спектакля па п'есе А. Дударава «Радавыя». У ролях: Дзерваеда — Л. ТРУШКО, Бушцеца — Ю. КУЛІК, Дугіна — Г. ШКУРАТАЎ (злева направа); артысты тэатра Міхаіл КРАСНАБАЕЎ і Таццяна ЛІХАЧОВА са студэнтамі Віцебскага электратэхнікума сувязі пасля спектакля «Рамэо і Джульета»; на сустрэчы з рабочымі вытворчага аб'яднання «Маналіт». У цэнтры — заслужаная артыстка БССР Людміла ПІСАРАВА.**

**Фота А. ЦАРЛЮКЕВІЧА.**

# «...ПАТРЭБНА РАДЗІМЕ, МУЗЕЮ, СЯБРАМ»



*ДА 95-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ УЛАДЗІСЛАВЫ ЛУЦЭВІЧ*

Уладзіслава Францаўна Луцэвіч пакінула незабыўны след у памяці вельмі многіх людзей, якія ведалі яе, сябравалі з ёю ці працавалі побач. Яна была добрым педагогам, шчырым і чулым чалавекам, жонкай і сябрам вялікага Янкі Купалы, а пасля смерці паэта — нястомнай збіральніцай, прапагандысткай і захавальніцай яго літаратурнай спадчыны.

Доўгая, выпрабаваная часам дружба звязвала Уладзіславу Францаўну з паэтэсай Канстанцыяй Буйло і ўсёй яе сям'ёй—братам і сястрой, сынам і пляменнікамі. Пра першую сустрэчу з Уладкай, як яна яе ўсё жыццё называла, яшчэ на пачатку нашага стагоддзя ў Вішневе Канстанцыя Буйло пісала: «Я ўбачыла ў садку пад расцвіўшымі яблынямі прыгожую маладую дзяўчыну ў доўгай цёмнай сукенцы, з іскрыстымі блакітнымі вачамі, з ясным ружовым тварам, з доўгімі, амаль да кален, пышнымі залатымі косамі. Ой, і прыгожая была тады Уладка! Дзіўна гарманіравала яе краса з гэтымі расцвіўшымі яблынямі. Уладка была спакойная, простая, лагодная і нейкая незвычайна чулая. Я не помню, каб мне калі ў жыцці было з кім так лёгка і добра з першай мінуты знаёмства».

Уладзіслава Францаўна бачыла, як цяжка жылося мнагадзетнай сям'і Буйло, і гэта з яе дапамогай Канстанцыя Антонаўна ўпершыню трапіла ў Вільню, дзе яны разам працавалі ў дзіцячым прытулку, жылі ў адным невялікім пакойчыку, дзяліліся апошнім кавалкам хлеба.

Больш як праз сорак гадоў у адным з пісьмаў Канстанцыя Буйло пісала сяброўцы: «Вельмі хачу, каб ты хутчэй прыехала да нас. Я зраблю ўсё, каб ты адпачыла, пераняніла абстаноўку. Ні пра што сумнае гаварыць і ўспамінаць не будзем. Я проста хачу цябе адчуць такой, якой я цябе люблю з дзяцінства, вельмі глыбока, як родную, самую блізкую мне сяброўку, сястру, маці — адным словам, кім ты была мне ўсё жыццё...»

А жыццё склалася так, што раскідала іх па розных гарадах: адна жыла ў Маскве, другая ў Мінску, сувязь паміж імі, аднак, не перарывалася ніколі. Сябрам Канстанцыі Буйло быў і Янка Купала. Але ён не любіў пісаць пісьмы, і ў Маскву пісала за яго і за сябе Уладзіслава Францаўна. На жаль, даваенных пісьмаў у архіве Канстанцыі Буйло не захавалася. Сярод мноства пасляваенных ёсць два лісты Уладзіславы Францаўны, прысланыя з Печышчаў, дзе сям'я Луцэвічаў нядоўга жыла ў час Вялікай Айчыннай вайны.

У студзені 1942 года Уладзіслава Францаўна паведамляла К. Буйло:

**«Тваю паштоўку атрымала! Я вельмі рада, што маю вестку ад цябе, што ты на старым месцы. Чакаю з нецярплівасцю, калі змагу зноў вярнуцца бліжэй да роднай Беларусі.**

**Уладкаваліся мы на млынзаводзе, не даязджаючы да Казані. У Казані бываем часта. Костка мілая мая, не забывай старых сяброў. Пішы часцей. Янка шле табе прывітанне.**

**Месяц назад памёр Змітрок Бядуля. Вось як бывае, і дзе давялося яму памерці».**

Другое пісьмо датавана 12 красавіка 1942 года. **«Дарагая мая родная Костка! Сардэчна дзякую за пісьмо, за дружбу. Хацела адразу адказаць, але настрой не вельмі добры. Жывём толькі радыёперадачамі, газетамі і надзеяй на сустрэчу з Беларуссю. У Янкі і здароўе не вельмі добрае. Можа цяпер, калі пацяплее, яго самаадчуванне палепшыцца».**

Пасля смерці Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна некаторы час жыла ў сям'і Канстанцыі Антонаўны. Сама паэтэса неаднойчы прыгадвала той час у сваіх успамінах. А зусім нядаўна мне давялося пачуць пра Уладзіславу Францаўну ад пляменніцы К. Буйло Людмілы Гурынай, якая таксама жыла ў доме цёткі, а пераехаўшы на іншую кватэру, часта бывала там. Яна расказвала: «Цётку Уладзю ўпершыню ўбачыла ў вайну пасля смерці Янкі Купалы. Яна была вельмі эмацыянальным чалавекам, любіла спяваць беларускія песні. Помню, мы ўсе спявалі «А зязюля кукавала». Па просьбе Уладзіславы Францаўны чытала ёй вершы Янкі Купалы, а яна плакала. Жыла яна толькі памяццю аб ім. Тут яна была апантаная.

Цётка Уладзя была вельмі шчырым і адданым чалавекам. Яна лічыла сваім абавязкам шэфстваваць над усім нашым родам».

У Канстанцыі Буйло захавалася больш як дзесяцігадовая перапіска з У. Ф. Луцэвіч. І ў кожным яе пісьме — словы пра Купалу, пра музей, пра паездкі ў розныя гарады [illegible]ецкага Саюза, дзе знойдзены рука[illegible], патрэбная кніжка, дзе могуць расказаць нешта цікавае пра дарагога ёй чалавека. Вось некалькі радкоў з пісьмаў розных гадоў.

21 студзеня 1948 года. **«Ездзіла ў Ленінград, сёе-тое знайшла там з дакументаў, пісьмаў Янкі. Вельмі задаволена паездкай».**

12 сакавіка 19[illegible] года. **«Мая паездка ў Кіеў была вельмі добрай. Удалося знайсці каля 200 рукапісаў Янкі. Частку я ўжо прывезла, а на астатнія ёсць рашэнне Акадэміі навук УССР на атрыманне іх для музея. Для мяне гэта вялікая каштоўнасць. Вельмі ўдзячная ўкраінскім таварышам, якія дапамаглі мне гэтыя матэрыялы знайсці».**

Уладзіслава Францаўна займалася, бадай, усімі справамі, якія датычыліся ўвекавечання памяці Янкі Купалы. Загадвала музеем паэта, адкрытым неўзабаве пасля вайны.

Яна адкрывала філіял Купалавага музея ў Вязынцы («раблю новую экспазіцыю ў Вязынцы, падрыхтавала выстаўкі, перадзвіжкі, плакаты і г. д.»), а потым ахвотна вазіла туды на экскурсію рабочых, школьнікаў, настаўнікаў, калгаснікаў, радавалася, што Вязынку наведалі госці з Польскай Народнай Рэспублікі, з Літвы і Латвіі. Уладзіслава Францаўна пісала ў Маскву, што ездзіла ў Ляўкі (даваенная дача паэта) і там правяла вечар памяці Янкі Купалы.

Радавалася, што ў тэатры ідзе п'еса Васіля Віткі «Шчасце паэта», прысвечаная песняру («паставілі нядрэнна, але я ўсё роўна перахвалявалася: усё перажытае жыве ў маёй памяці»), што «ў Вільнюсе выйшла кніга Янкі «Выбранае» на літоўскай мове, а таксама прыслалі нам у музей на кітайскай мове другую кніжку Янкі Купалы». Яна была складальніцай зборнікаў матэрыялаў, альбомаў пра жыццё і дзейнасць Янкі Купалы.

У апошнія гады Уладзіслава Францаўна часта хварэла, не магла працаваць столькі, колькі б хацелася, і яе гэта засмучала і непакоіла. У пісьмах яна часта скардзілася на хваробы, адзіноту, пісала, што ўжо, мусіць, нікому не патрэбна. І верная Костка сярдзіта выгаворвала, пераконвала, што яна патрэбна сябрам, музею, Радзіме. І гэта была чыстая праўда.

У 1959 годзе Уладзіславе Францаўне Луцэвіч прысвоена званне заслужанага дзеяча культуры БССР. А 1 студзеня 1960 года яна пісала Канстанцыі Буйло: **«Новы год сустрэла ў ложку. Дзякуй, што добрыя людзі мяне не забываюць. Атрымала больш за 200 віншаванняў, сардэчных, цёплых, і гэта мяне радуе. Дзякую партыі і ўраду за вялікую ўвагу да мяне і маёй сціплай працы, за вялікі клопат Радзімы па ўвекавечанню памяці Янкі Купалы».**

**Д. БАБАК.**

# *РЫХТУЕЦЦА ДА ВЫДАННЯ*

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» сумесна з Інстытутам літаратуры АН БССР і Саюзам пісьменнікаў рэспублікі рыхтуе да выдання васьмітомны збор твораў Уладзіміра Караткевіча.

Вядома, што найбольшую папулярнасць пісьменнік заваяваў як майстар прозы, і перш за ўсё гістарычнай. У збор твораў увойдуць яго лепшыя работы гэтага жанру — раманы «Каласы пад сярпом тваім», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха», «Сівая легенда», «Зброя» і іншыя.

Але не толькі глыбокая даўніна хвалявала розум і сэрца пісьменніка. Звяртаючыся да гістарычнага мінулага беларускага народа, ён хацеў лепш высветліць сённяшні дзень рэспублікі, больш ясна ўбачыць маштабнасць і перспектывы яе развіцця. Вось чаму з-пад яго пяра выйшла нямала твораў, дзе гісторыя і сучаснасць — непарыўнае цэлае. Такія раман «Нельга забыць», аповесці «Чорны замак Альшанскі», «Чазенія» і многія апавяданні.

Асобным томам будзе прадстаўлена паэзія У. Караткевіча. Свой творчы шлях ён пачынаў як паэт і застаўся верны паэзіі да апошніх дзён жыцця. Яго вершы прыцягваюць чытачоў яркай метафарычнасцю, лірычнай пяшчотай, глыбокім патрыятызмам.

Сапраўднаму таленту падуладна многае. Сцвярдзіўшы сябе ў жанры паэзіі і прозы, У. Караткевіч у апошнія гады стварае цэлы шэраг яркіх, самабытных драматычных і публіцыстычных твораў. Яго п'есы «Званы Віцебска», «Кастусь Каліноўскі» і іншыя былі пастаўлены ў лепшых тэатрах рэспублікі. А эсэ «Зямля пад белымі крыламі» выдадзена не толькі ў Беларусі, але і ў іншых саюзных рэспубліках, у шэрагу сацыялістычных краін. Гэтыя творы і складуць восьмы, заключны том.

Збор твораў Уладзіміра Караткевіча будзе выдадзены ў 1987—1990 гадах. Кніжныя магазіны рэспублікі адкрылі падпіску на гэта выданне.

**С. ПРЫГОДЗІЧ.**

# ДОМ НА ІСЛАЧЫ



**На Валожыншчыне, у сасновым бары на беразе Іслачы, чакае першых гасцей новы Дом творчасці беларускіх пісьменнікаў. Ён прыняў эстафету ад каралішчавіцкага, дзе працаваў Якуб Колас, пісаў свае «Векапомныя дні» Міхась Лынькоў, складаў вершы Пятрусь Броўка, ствараліся злабадзённыя п'есы Андрэя Макаёнка. Але ўсё гэта — гісторыя. А наперадзе ў нашых пісьменнікаў новыя задумы, новыя цікавыя творы, многія з якіх, магчыма, народзяцца тут, на Іслачы. Сімвалічна, што з каралішчавіцкай зямлі прывезлі сюды і пасадзілі невялікія дрэўцы.**

**Сёння «Іслач» адначасова можа прыняць сто чалавек: беларускіх пісьменнікаў і журналістаў, а таксама гасцей з брацкіх рэспублік, сацыялістычных краін.**



**НА ЗДЫМКАХ: Дом творчасці «Іслач»; дрэўца садзіць сын Якуба Коласа Даніла МІЦКЕВІЧ (у цэнтры); ля каміна пісьменнікі Васіль БЫКАЎ, Іван ШАМЯКІН і Анатоль СУЛЬЯНАЎ.**

**Фота Ю. ЗАХАРАВА.**



*НАТАТКІ НАТУРАЛІСТА: СНЕЖАНЬ*

# СЯРОД БЕЛАЙ БЯЗГУЧНАСЦІ

Суровая пара прыйшла ў лес. Стынуць, зацягваюцца льдом лясныя крыніцы. З вечара ўдарыў мароз, ды такі, што ўсю ноч у лесе стаяў трэск; так плачуць ад холаду дрэвы. Раніцай мароз стаў яшчэ мацнейшы. Сонца крыху ўзнялося над гарызонтам, спынілася і, здаецца, застыла, як усё навокал. Дні ўсё карацеюць і карацеюць, пакуль не надыдзе 21 снежня — дзень зімняга сонцастаяння — час, калі самая доўгая ў годзе ноч і самы кароткі дзень. Снежань не толькі каляндарны пачатак зімы: амаль усюды ў гэтым месяцы ўтвараецца ўстойлівае снежнае покрыва.

Прымоўклі птушкі, пахаваліся звяры. Здаецца, што жыццё ў лесе замерла. Але яго насельнікі ўмеюць прыстасоўвацца да зімніх халадоў. Стойка пераносяць маразы нічым не абароненыя мхі і лішайнікі. Схаваныя пад снегам мяккія падушкі «зязюльчынага льну», застаюцца зялёнымі ўсю зіму, на балотах добра перазімоўвае сфагнавы мох. На высокіх, сухіх пясчаных месцах хрумсцяць пад нагамі прыгожыя «кусцікі» аленевага моху. З галінак старых елак звешваюцца доўгія шэрыя «бароды» лішайнікаў. Як адгалосак далёкага мінулага, калі наша зямля была пакрыта пышнай трапічнай расліннасцю, захаваліся вечназялёныя багун, брусніцы, журавіны.

Па-рознаму — з лісцем і без яго — зімуюць травы. У лесе пад снег схаваліся ў зялёным уборы грушанка і суніцы, на лузе — белая канюшына, гравілат і паўзучы люцік.

А што ў гэты час робяць насякомыя? Надышлі халады, і галоўнае для іх — спакой, калі развіццё спыняецца і, здаецца, само жыццё ў іх толькі тлее. Эканомна расходуючы харчовыя запасы, чакаюць насякомыя вясны. Забіраюцца яны, адны дарослымі, другія ў выглядзе лічынак, кукалак, яек, глыбока ў лясную падсцілку, зарываюцца ў глебу, хаваюцца ў гнілыя пні, а некаторыя зімуюць пад адкрытым небам. На зіму яйкі адкладваюць і зялёныя конікі. Толькі яны іх хаваюць у зямлю. А ў матылькоў-баярышніц зімуюць вусені. Божыя кароўкі масамі збіраюцца восенню ў падсцілцы на лясных палянках і ў парках, дзе і праводзяць усю зіму. У лесе цяпер дарэмна шукаць насякомых, хаця ўсе яны тут: пахаваліся, затаіліся і будуць чакаць прыходу веснавога цяпла.

Зарыліся ў мяккую лясную падсцілку трытоны. Пад старымі гнілымі пнямі схаваліся вужы і змеі. На дне вадаёмаў — нерухомыя жабы.

Цішыня ў лесе. Толькі тонкае папіскванне сініц ды глухі перастук дзятлаў крыху ажыўляюць яе. Птушкам зімой галадна і мароз даймае. Не заўсёды ўдаецца знайсці ім прытулак, дзе можна было б схавацца ад сцюдзёнага ветру. І тады, распушыўшы сваё пер'е, яны нерухома сядзяць на галінках: так ратуюцца ад марозу. Многія з іх забіраюцца ў дуплы, шчыліны і нішы, а іншы раз нават пад карэнне, дзе даволі часта трапляюць у зубы ласкі ці гарнастая. Некаторыя птушкі начуюць цеснымі радамі на адной галінцы, і па меры таго, як мароз даймае крайніх, яны, каб сагрэцца, займаюць месца ў сярэдзіне. Выратавальным для ўсяго жывога ад холаду з'яўляецца снег[illegible]тушкам гэта таксама добра [illegible]ма. У снезе начуюць цецерукі і глушцы. Падаючы ўніз, зрабіўшы тунель, яны заміраюць там да раніцы. Вельмі цікава ў снежных пустотах спяць даўгахвостыя сініцы. Г[illegible]я маленькія птушкі іншы ра[illegible]чуюць групай, прыцiснуўшыся адна да адной. Атрымліваецца вялікі, пушысты шар са шматлікімі хвосцікамі, што вытыркаюцца ў розныя бакі.

Для мышэй пад снегам нават моцны мароз не страшны.

Надыходзіць галодная пара і для дзікіх капытных жывёлін. Чуйна прыслухоўваючыся да кожнага гуку, блукаюць статкі аленяў і дзікіх коз. Разам лягчэй выявіць набліжэнне ворага і пазбегнуць нападу рысяў і ваўкоў. Каб дапамагчы дзікім капытным перанесці галодную і халодную зіму, у запаведніках, заказніках і паляўнічых гаспадарках арганізуюць для іх спецыяльныя «сталовыя», дзе ў кармушкі выкладваецца душыстае сена, у поймах лясных рэк і ручаёў з лета пакідаюць невялікія стажкі, выкладваюць венікі з вярбы, асіны і іншых ліставых парод, нарыхтаваныя яшчэ летам. Каб папярэдзіць качаванне кабаноў, іх падкормліваюць бульбай і караняплодамі, раскладваюць салому, з якой кабаны робяць сваё логава. У Белавежскай пушчы ў месцах падкормкі трымаюцца ўсю зіму статкі з 30—50 кабаноў. Леснікі штодзённа ў вызначаны час прывозяць ім кармы. Калі звяроў паблізу няма, то дастаткова пастукаць лапатай па санях, каб, пачуўшы гэтае запрашэнне да «абеду», кабаны заспяшаліся да сваёй сталовай. За зіму звяры настолькі прывыкаюць да леснікоў, што часта пры іх з'яўленні не ўцякаюць, а назіраюць з-за кустоў, як ідзе разгрузка. Ледзь людзі адыходзяць, звяры кідаюцца да кармушкі.

...Апошнія гады ўсё больш снежным і марозным бывае снежань. Зелянеюць елкі, апранутыя ў пушыстыя шапкі, чарнеюць дрэвы, яркімі бура-чырвонымі здаюцца камлі соснаў. Ад дрэў, асветленых касымі, халоднымі промнямі скупога зімняга сонца, кладуцца доўгія шэрыя цені. Вочы слепіць бляск мяккага снегу, лёгка дыхаецца марозным паветрам зімняга лесу.

Праўда, пра сёлетні снежань гэтага не скажаш. Амаль што палова яго была падобна на кастрычнік. І толькі цяпер пачалі асцярожна падбірацца маразы.

**Аляксандр КУРСКОЎ,**
**кандыдат біялагічных навук.**



## МАЁ КАХАННЕ, ДЗЕ ТЫ?..

*Словы А. СТАВЕРА* *Музыка І. ЛУЧАНКА*



**Маё каханне, дзе ты, дзе жывеш!**
**Мой спадарожнік радасці і болю!**
**Няўжо мяне ты ўсё-такі абмінеш!**
**Няўжо цябе я не знайду ніколі!**
**Дзе ж цябе шукаць мне,**
**Дзе сустрэць, знайсці цябе мне!**

**Не трэба мне шматструннай славы, не!**
**Не трэба мне пахвал лісліўых хоры!**
**Жыла-была б ты толькі ля мяне, —**
**Я мог бы зрушыць, як гавораць, горы.**
**Дзе ж цябе шукаць мне,**
**Дзе сустрэць, знайсці цябе мне!**

**Цябе няма... У буру — бездарож**
**Іду адзін я па зямных абшарах...**
**І ў горкі час я долі ўдзячны ўсё ж,**
**Што ты жывеш хоць у прыгожых марах...**
**Дзе ж цябе шукаць мне,**
**Дзе сустрэць, знайсці цябе мне!**

## КЛУБ АМАТАРАЎ ГІСТОРЫІ

У Віцебску з вясны 1986 года паспяхова дзейнічае клуб аматараў гісторыі і старадаўнасці «Узгор'е». Назву далі ў гонар аднаго з трох замкаў старога горада, а яшчэ таму, што першыя пасяджэнні прайшлі ў кінатэатры «Спартак», які размешчаны на тэрыторыі былога Узгорскага замка. Гэты клуб аб'ядноўвае людзей, улюбёных у гісторыю роднага краю, заклапочаных лёсам архітэктурнай спадчыны Віцебска.

Мінулым летам удзельнікі клуба правялі падрыхтоўчыя работы на першым у Віцебску аб'екце рэстаўрацыі — комплексе манастыра трынітарыяў. Крыху з гісторыі гэтай пабудовы. Кляштар і касцёл трынітарыяў закладзены ў 1752 годзе. У XIX стагоддзі вуліца, на якой стаяў манастыр, таксама яшчэ мела назву Трынітарскай. Спачатку, гэта быў каталіцкі храм, потым яго перабудавалі ў Пакроўскую царкву. Комплекс манастыра трынітарыяў займаў значнае месца ў горадабудаўнічай структуры, арганічна ўпісваўся ў сілуэт Віцебска. Дарэчы, Віцебск тых гадоў па прыгажосці і своеасаблівасці параўноўвалі з такімі гарадамі, як Таледа, Кракаў, Львоў! Варта толькі нагадаць «Жыццё Арсенія» Буніна, успаміны С. Эйзенштэйна, творы Шагала, Малевіча, уражанні У. Маякоўскага. Зараз, як вядома, такое параўнанне правесці цяжка, бо ад старажытнага Віцебска засталося вельмі мала будынкаў, адзін з іх — комплекс манастыра трынітарыяў.

Згодна праекту, распрацаванаму маладымі архітэктарамі «Віцебскграмадзянпраекта», у будынку былога храма будзе канцэртная зала.

Усё гэта ў будучыні, а цяпер тройчы ў тыдзень на тэрыторыі былога манастыра працуюць маладыя віцябчане, члены клуба «Узгор'е».

**М. ПАЎЛАЎ.**

## ВУЛІЦЫ ТОЛЬКІ ДЛЯ ПЕШАХОДАЎ

Той, хто ўпершыню наведвае Гродна, з вялікім задавальненнем любуецца чысцінёй і зелянінай старажытнага горада над Нёманам. У апошнія гады тут з асаблівай ашчаднасцю ставяцца да гістарычных помнікаў архітэктуры, імкнуцца захаваць іх першасную аснову, а пры магчымасці прыстасаваць будынкі для гандлёвых і бытавых патрэб насельніцтва. У перспектыве старую гандлёвую частку горада плануецца закрыць для аўтамабільнага транспарту, і вуліцы застануцца толькі ва ўладзе пешаходаў. Пачатак гэтай добрай справе паклалі дзве вуліцы — Савецкая і імя Ажэшкі, дзе ўжо зараз не пачуеш шуму машын, тралейбусаў. У апошні час пачалася інтэнсіўная рэстаўрацыя старых памяшканняў. Тут сёлета адкрылася дзіцячае кафэ з паэтычнай назвай «Верасок», дзе заўжды поўна дзятвы, на вуліцы Ажэшкі — «Чабурэчная». Памяшканне прыгожа, з густам аформлена, адпаведную атмасферу ствараюць арыгінальныя свяцільнікі, крэслы і столікі. А наперадзе ў рэстаўратараў новыя планы, новыя задумкі. У 1987 годзе на вуліцы імя Тэльмана пачнецца рэстаўрацыя будынка XIX стагоддзя, дзе размесціцца кафэ «Каложанскае». Так некалі называлася вуліца, якая прылягае да гэтага будынка. Інтэр'ер кафэ, мэбля, люстры будуць выкананы ў стылі XII стагоддзя. Тут жа размесцяцца навукова-рэстаўрацыйныя майстэрні, якія зараз вядуць вялікую работу па аднаўленню помнікаў мінулага ў горадзе.

**І. СУХОЦКІ.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**НАШ АДРАС:**

**МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 1941